# СВАБОДА

№17 3 — 10 траўня 1994 г.

Кошт 100 рублёў


## Захад адмаўляе ў крэдытах

**Як стала вядома карэспандэнту СВАБОДЫ, урад Кебіча атрымаў ад пасольства Італіі ноту, у якой паведамляецца, што ўрад гэтае краіны прыняў рашэньне спыніць крэдытную лінію для Беларусі.**

Трэба меркаваць, што італьянцы ня хочуць падтрымліваць недэмакратычны рэжым, які не праводзіць ніякіх рэформаў, а толькі затыкае заходнімі крэдытамі дзюркі дзяржаўнай эканомікі і частку грошай раскрадае.

Яшчэ раней у дачыненьні да Беларусі была прыпыненая праграма ТАЦІС, распрацаваная ЭС для посткамуністычных краінаў.

**М.Г.**

## Будзем гандляваць з Малдоваю

**5 траўня ў Малдову з двухдзённым візытам выпраўляюцца Мечыслаў Грыб, Вячаслаў Кебіч і Пятро Краўчанка.**

Падчас візыту мяркуецца падпісаць двухбаковае гандлёва-эканамічнае пагадненьне. Мечыслаў Грыб пляную сустрэцца з прадстаўнікамі беларусаў, якіх у Малдове каля 20 тысяч.

**І.С.**


ГОД ЗАСНАВАНЬНЯ 1902
ВЫХОДЗІЦЬ З 1990

Галоўны рэдактар **Ігар ГЕРМЯНЧУК**

Заснавальнік **Павал ЖУК**

Выдавец **«Газэта СВАБОДА», Ltd.**



АДРАС РЭДАКЦЫІ:
**220088, Менск, вул.Іванаўская, 56**


**Дазвольце праз Вашую газэту выказаць сардэчную ўдзячнасьць рэдакцыі СВАБОДЫ, усім спадарыням і спадарам, партыям, арганізацыям і калектывам, якія павіншавалі мяне з пяцідзесяцігодзьдзем. Зычу ўсім посьпехаў і плёну на карысьць нашай ахвярнай, дарагой Бацькаўшчыны — Беларусі!**

**Зянон ПАЗЬНЯК**

# Калі няма прафэсіяналізму, свабода не патрэбная

Паводле ААНаўскага календара ўчора быў Дзень свабоды друку. У нас яго таксама нібыта адзначалі. Пры гэтым, праўда, стараліся ня згадваць пра свабоду, бо ўсім зразумела, што яе ў нас як не было, так і няма. Ёсьць толькі прымітыўны друк, цалкам падкантрольны ўладам.

На эўрапейскім кантынэнце Беларусь застаецца адзінаю краінаю, дзе не забясьпечваецца свабода друку. Калі нядаўна ў Страсбург прыехала беларуская дэлегацыя на чале зь Мечыславам Грыбам, ёй у Эўрапарляманце пра гэта чарговы раз нагадалі: што вы сабе думаеце, хлопцы! А хлопцы пацiснулі плячыма, прыехалі дахаты і давай яшчэ больш закручваць гайкі (спрабуюць, напрыклад, пазбавіць нашу газэту памяшканьня). Між тым, пакуль у Беларусі ня будзе свабоднай прэсы, нас не дапусьцяць у эўрапейскае супольніцтва, у прыватнасьці, у Раду Эўропы, куды гэтак намагаецца ўлезьці цяперашні рэжым. Бо прызнаньне краіны дэмакратычнаю — гэта крэдыты, інвэстыцыі і г.д.

Самае цікавае, што і самі журналісты ня надта імкнуцца вырвацца з-пад дзяржаўнага крыла на свабоду. Пад урадавай апекай больш надзейна — грошы на зарплату ў бюджэце заўсёды знойдуцца, а самастойнае плаваньне такой гарантыі не дае.

У нядаўнім «Слове да чытача», якое апублікавалі чатыры дзяржаўныя газэты з прычыны іхнага нявыхаду, рэдактары гэтых выданьняў скардзяцца, што няма грошай выпускаць газэты, бо «сродкаў ад падпіскі хапіла на лічаныя дні». Дарагія калегі, а пра што вы думалі, калі вызначалі кошт падпіскі? Вы самі паставілі сымбалічную цану, а цяпер скардзіцеся.

Наколькі мне вядома, на наступны квартал вы таксама абвесьцілі мізэрны кошт падпіскі. А чаму б не паставіць больш-менш рэальную цану? Але вы разумееце, што даражэй можна прадаць толькі добры тавар. А за такія газэты людзі згодзяцца плаціць роўна гэтулькі, колькі яны каштуюць. Паставіце больш — ня купяць. У выніку — страціце наклад, а разам зь імі і рэклямадаўцаў.

Каб выпускаць газэту, якую купяць, трэба дзьве рэчы: свабода і прафэсіяналізм. Калі ж ёсьць праблемы з прафэсіяналізмам, то бессэнсоўна дамагацца і свабоды, бо тады — верная сьмерць, можна застацца без кавалка хлеба. Таму зразумела, што з Саўмінам больш надзейна: ён дае грошы і патрабуе толькі аднаго — «трымаць лінію». Трымайце, хлопцы!

**Пятро ПАНКРАТОВІЧ**



**Свабода, свабода... Нас і тут някепска кормяць!**
*Малюнак Сяргея Харэўскага*





Рукі і вочы.
**Мітрапаліт Філарэт і прэм'ер-міністар В.Кебіч.**
**(Фотарэпартаж пра велікодныя набажэнствы ў Менскім Сьвята-Духавым саборы гл. на с. 2)**

## «Ходют тут всякие...»

### Каб пастаяць перад Крамлём на каленях, цяпер трэба будзе прасіць дазвол

**Падобна на тое, што паездкі Вячаслава Кебіча і ягоных чыноўнікаў у Маскву гэтак устылі расейскім уладам, што тыя вырашылі ўвесьці абмежаваньні.**

Міністэрства замежных справаў Беларусі атрымала ноту з расейскага МЗС, у якой гаворыцца, што «ўрад Расейскай Фэдэрацыі прыняў рашэньне надалей прытрымлівацца агульнапрынятай міжнароднай практыкі, згодна якой афіцыйныя і працоўныя візыты кіраўнікоў урадаў і іншых прадстаўнікоў органаў выканаўчай улады дзяржаваў СНД, як і іншых замежных дзяржаваў, падлягаюць папярэдняму ўзгадненьню па дыпляматычных каналах. Не абмеркаваныя папярэдне паездкі ў Расею кіраўнікоў органаў выканаўчай улады замежных дзяржаваў будуць разглядацца расейскім бокам як прыватныя візыты».

Зрэшты, гэтыя пратакольныя абмежаваньні мала датычаць Вячаслава Францавіча, бо пасьля паразы на прэзыдэнцкіх выбарах яму наўрад ці ўдасца выехаць куды-небудзь нават у прыватным парадку.

**Іван СІДАР**

Сёньня

Сяргей ДУБАВЕЦ

## Штрэйк-брэхерскі страх

Можа быць і такі погляд на сытуацыю: беларускі народ — найбольш запалоханы з усіх савецкіх народаў — на руінах імпэрыі паводзіць сябе як народ-штрэйкбрэхер. Апошні раз гэтае слова я пачуў ад паспалітай вясковай цёткі на мяжы Маладэчанскага і Смаргонскага раёнаў.

Цётка скардзілася на старшыню-самадура. Даволі малады яшчэ дзяцюк, сын дырэктара цагельнага заводу, які носіць толькі белыя шкарпэткі, лётае па новым «фордзе» і будуе сабе за калгасныя грошы дзьве дачы, для вясковага люду мае толькі адно слова — «вон!». Самыя занятыя спэцыялісты і змучаныя працай мэханізатары маюць у яго па 8—10 даляраў у месяц. «Раней, — казала цётка, — хоць партыі баяліся. Неяк Малафееў тут на вярталёце сядаў, дык толькі пабачыў гэтыя хлявы, адразу ранейшага старшыню-самадура скінуў».

Паставілі гэтага, таксама самадура.

Я кажу: «Няўжо яму ніхто не запярэчыць?». А цётка пра гэта: «Усіх, хто пярэчыў, ён ужо выжыў». «Ну ёсьць жа, — кажу, — сельскі сход, які старшыню выбірае...» Вось тут цётка і сказала тое слова, маўляў, у калгасе хапае штрэйкбрэхераў, гэта значыць людзей, застрашаных да сьмерці.

Доўга мы гаварылі — і зь цёткай, і з паляводамі, і з брыгадзірам, з вэтэрынарам, з мэханізатарамі... Сытуацыя сялянства ўсё больш нагадвае знаёмую зь літаратуры сытуацыю сярэдзіны мінулага стагодзьдзя. Каму пры гэткай «дэмакратыі» ды «незалежнасьці» сапраўды жывецца горш, чым пры нядаўнім сацыялізьме, дык гэта вяскоўцам. Яны ўсё больш ператвараюцца ў зьняважаных жабракоў пад гэтымі панамі старшынямі, якія так падобныя да колішніх расейскіх паноў, што прызначаліся акупацыйнымі ўладамі на акупаваныя землі...

Словам, безвыходнасьць поўная. Але мусіў я нешта тым людзям і сабе самому сказаць і параіць. І я параіў — чыніць адвечна сялянскі супраціў адвечнаму панскаму самадурству: паліць старшынёвы сядзібы, ягоную ўправу і ягоныя «форды». Інакш пераадолець штрэйкбрэхерскі страх немагчыма, а дзяржаву, баюся, яшчэ доўга будуць задавальняць і калгасы, і гэткія старшыні. Яна, дзяржава, яшчэ доўга ня будзе праўнай. Гэта значыць, што адстойваць свае правы праўнымі мэтадамі ў ёй немагчыма. Пакуль там наверсе палітыкуюць, тут самыя жывыя і здольныя людзі вёскі і нацыі — маладыя спэцыялісты, прагныя да зямлі і да посьпеху, — ператвараюцца пад гэтымі самадурамі ў псыхічна паняволеных бязвольных пакутнікаў.

А галоўнае, чаго я баюся, — што гэтак жа мусіць пераадольваць свой страх ня толькі штрэйкбрэхер-калгасьнік, але і ўвесь наш штрэйкбрэхер-народ, найбольш запалоханы з усіх колішніх савецкіх народаў.

## 500 даляраў за Адама Міцкевіча

**СВАБОДА ўжо паведамляла, што перад сядзібаю Саюзу палякаў у Горадні будзе пастаўлены помнік Адаму Міцкевічу.**

1-га траўня абвешчаны адкрыты конкурс, які працягнецца 5 месяцаў. Удзельнічаць у ім будуць таксама скульптары з Польшчы. Аўтара лепшага праекту чакае ўзнагарода ў 500 даляраў.

В.В.

## Капцы Сувораву?

**Гарадзенская абласная Рада ТБМ абмеркавала пытаньне аб ушанаваньні памяці пацтанцаў 1794 г.**

Вырашана заняцца тлумачэньнем насельніцтву вобласьці сапраўднай сутнасьці антыбеларускай дзейнасьці фэльдмаршала Суворава. Мясцовыя суполкі ТБМ зьвернуцца ў гарадзкія й раённыя тапанімічныя камісіі з патрабаваньнем замяніць назовы зь ягоным прозьвішчам.

С.М.

## Турэцкія сьцены заплакалі

**З 18-ці дамоў, якія пабудавала турэцкая фірма «Энка» ў Слоніме, у дванаццаці шматпавярховіках апошнім часам зьявілася вільгаць у кватэрах.**

Каб зьліквідаваць недахопы, «Энка» згадзілася прадоўжыць гарантыйныя тэрміны яшчэ на паўгода.

Віктар ВАЛАДАШЧУК

## На аднаго „Бальшавіка" паменела

Калгас „Бальшавік" Чэрвеньскага раёну рашэньнем сходу яго працаўнікоў зьмяніў назву. Цяпер гэта — аграпрамысловае аб'яднаньне „Чэрвеньскае".

В.М.

## Дысэртацыі па-ранейшаму трэба вазіць на «экспэртызу» ў Маскву

**Беларускія навукоўцы з кожным месяцам усё вастрэй адчуваюць няўзручнасьці, якія прыносіць адсутнасьць у Беларусі інстытуцыяў сувэрэннай дзяржавы альбо толькі дэкаратыўнае іх афармленьне.**

Абаранўшы свае дысэртацыі, новыя кандыдаты навук, ведаючы, што пры Саўміне Беларусі існуе свая Вышэйшая атэстацыйная камісія, носяць туды дакуманты на зацьверджаньне. А ў БелВАКу ім кажуць: «Мы сапраўды існуем ужо два гады. Аднак пакуль не гатовыя ўзяць вашыя паперы. Адсылайце іх у Маскву, у расейскі ВАК».

У Маскве адказваюць, што згодныя прыняць дакуманты на зацьверджаньне, але вось толькі заплаціце 150 тыс. расейскіх рублёў (фактычна — мільён беларускіх). Акрамя таго, навукоўцы, якія напісалі дысэртацыі па-беларуску, мусяць ліхаманкава перакладаць хаця б аўтарэфэраты сваіх працаў на расейскую мову, друкаваць іх, што вядзе яшчэ да большых выдаткаў часу й фінансаў. Такім чынам, «экспэртызу» беларускіх дысэртацыяў па-ранейшаму робяць маскоўскія чыноўнікі, якія маюць магчымасьць заблякаваць невыгодныя з гледзішча Расеі працы беларускіх навукоўцаў, асабліва ў галіне гуманістыкі. Між тым БелВАК афіцыйна існуе, мае зацьверджаныя штаты, чыноўнікі атрымліваюць неблагія аклады... Дарэчы, намесьнікам старшыні ВАК да абраньня ў Канстытуцыйны суд працаваў дэпутат Ціхіня.

Уся гэтая «гісторыя» мае яшчэ адзін аспэкт: сама сыстэма ВАКаў, захаваная ў Беларусі, дасталася ў спадчыну ад таталітарных часоў. У краінах зь лібэральнымі рэжымамі падобныя ўстановы займаюцца толькі рэгістрацыяй і захаваньнем абароненых дысэртацыяў, а галоўнаю ёсьць пастанова Дактарскай рады, якая і надае навуковую годнасьць. Савецкія ж ВАКі мелі і маюць права апошняй інстанцыі, у стане адхіліць любую абароненую дысэртацыю. Гэта інструмэнт кантролю ўраду таталітарнай дзяржавы над навуковаю грамадзкасьцю. Падобная сыстэма на постсавецкай прасторы захавалася толькі ў Расеі, Кіргізіі ды Беларусі.

Ян ГРЭЧЫЦ

**У БелВАК завіталі высокія госьці: Старшыня Саўміна Вячаслаў Кебіч са сваім намесьнікам Міхаілам Дзямчуком.**

## Віцебскія міліцыянты п'юць за здароўе камэрсантаў

**Другі месяц не сьціхае скандал вакол віцебскага аддзелу па барацьбе з арганізаванай злачыннасьцю, супрацоўнікі якога прыхавалі 157 скрынак падробнага каньяку, сканфіскаванага ў канцы мінулага году ў прыежджых камэрсантаў.**

У дачыненьні да аднаго зь міліцыянтаў (маёра Бакевіча) пракуратура Віцебскай вобласьці ўзбудзіла крымінальную справу за службовы падлог. Астатнія аматары каньяку, у тым ліку і сам начальнік аддзелу палкоўнік Казлоў, у гаражы і на дачы якога было выяўлена каля 150 літраў сканфіскаванага сурагату, здаецца, выйшлі сухімі з вады. Больш за тое, сп. Казлоў спрабуе цяпер даказаць, што нібыта зусім ня меў дачыненьня да «каньячнай» гісторыі. Аднак ягоныя тлумачэньні не пераканалі супрацоўнікаў інспэкцыі па кадрах МУС. Начальнік гэтай службы падпалкоўнік Мядзьведзеў падчас тэлефоннай размовы з карэспандэнтам СІМ заявіў, што міністар унутраных справаў даўно б звольніў палкоўніка Казлова з МУС, калі б на тое была згода сэсіі Віцебскага аблсавету, дэпутатам якога зьяўляецца палкоўнік Казлоў.

*СІМ*

## Стымул для старшыняў

**Гарадзенскі аблвыканкам вызначыў дадатковыя захады для матар'яльнага заахвочваньня аграрнікаў за выкананьне ў 1994 г. аб'ёмаў рэалізацыі збожжа.**

Напрыклад, старшыня райвыканкаму і старшыня калгасу за добрыя вытворчыя паказьнікі могуць разьлічваць на грашовую прэмію ў памеры 10 мінімальных зарплатаў.

Уладзімер ЯНЧУК

## Несуцешная статыстыка

**Паводле зьвестак Слонімскай пракуратуры, летась у горадзе й раёне загінула 82 чалавекі. 25 зь іх скончылі жыцьцё самагубствам.**

Большасьць разьвіталася з жыцьцём у працаздольным узросьце. Самая распаўсюджаная прычына самагубства — п'янства.

Віктар ВАЛАДАШЧУК

## Камісары шануюць царкву

**Навагрудзкі ваенкамат жвава рэагуе на павевы часу.**

2 траўня ў Мікалаеўскай царкве сабралі каля 50 прызыўнікоў, якіх бацюшка прычасьціў і блаславіў на «службу ратную».

С.С.

## Гарым, Раман!

**Сярод белага дня ў старшыні бюджэтна-фінансавай камісіі ВС Рамана Ўнучкі згарэла лецішча ў Навагрудзкім раёне.**

Ад драўлянага дому засталіся толькі галавешкі. Згарэў таксама суседні дом, які належыць сыну старшыні калгасу «Камінтэрн» Сьветазара Грэйбы.

Але абодва пагарэльцы, здаецца, ня дужа бядуюць. Што да Рамана Ўнучкі, дык ён, былы першы сакратар гаркаму, зусім не зьбіраецца вяртацца ў Навагрудак. Раман Іосіфавіч за чатыры гады дэпутацтва абжыўся ў Менску. Ён кіруе тут ня толькі парляманцкай фінансавай камісіяй, але пасьпеў падрыхтаваць сабе запасную пляцоўку — пасаду старшыні камэрцыйнага банку.

Сяргей СТУЖКА

**На здымку: Раман Унучка.**

Адам Глёбус

# ІДЭАЛЬНЫ ПРЭЗЫДЭНТ

Развагі пра кандыдатаў

Ня ўсе тыя, хто змагаюцца за незалежную Беларусь, пойдуць галасаваць за Прэзыдэнта, і ў гэтым акцэ будзе добрая доля здаровага рацыяналізму. Каго б з кандыдатаў ні абралі, усё адно радыкальных зьменаў ня будзе. Сярод прэтэндэнтаў няма ідэальнага. Калі параўнаць выбары з каханьнем, то можна ўбачыць і нестандартны вынік. Калі хлопец доўга ня бачыць сваю каханую дзяўчыну, дык ва ўяўленьнях яна можа зрабіцца значна лепшая, чым у жыцьці. І пры сустрэчы ягоную шчырую й спакутаваную душу агорне расчараваньне. Тое ж і з прэзыдэнтам — большасьць чакае нейкага ідэальнага, які прыйдзе, недзе ўсіх нас павядзе, і мы, беларусы, ужо бяз братняе Русі ўзаб'емся на лепшую долю, свабоду дый волю. У каго я ні пытаўся: «Які павінен быць першы беларускі Прэзыдэнт?» — усе аднагалосна сьцьвярджалі: прыгожы. А тут настала 25 красавіка 1994 году, і надышоў час сыходзіць з аблокаў на добра забруджаную зямлю і выбіраць, за каго падпісацца. Як той казаў: пара, мой брат, пара... І вось яны, не ідэальныя, а рэальныя: Пазьняк, Шушкевіч, Кебіч, Карпенка, Лукашэнка ды Новікаў.

На маю думку, горш за ўсіх выйшлі на выбары камуністы. Яны паставілі на нікому не вядомага Новікава. Ну хто ведае Новікава? Лепш бы яны вылучылі гітарыста з ансамблю «Верасы» Старыкава, таго й то больш ведаюць. А калі кандыдата ня ведаеш, дык нават параўноўваць зь ідэалам няма як.

Што да Лукашэнкі, дык з маім эталёнам ён і блізка не хадзіў. Ён выйшаў з пакаленьня, якое было трапна ахрышчана «камсамольскім дэкадансам». Менавіта яно рабіла й не зрабіла апошні савецкі путч. Гэта людзі, народжаныя быць «другімі», «другасортнымі». Як камсамол ляжаў пад партыяй, так і гэтае пакаленьне ляжыць пад старэйшымі. Змаганьне Лукашэнкі з мафіяй нагадвала нарыхтоўку воўны са сьвіней — віску многа, а шчэці нуль. Каб Масква прызначала на Беларусь генэрал-губэрнатара, тут бы ён, можа, і спатрэбіўся, а ў прэзыдэнты ён слабы прэтэндэнт.

Як я не люблю розныя рыфмы й рыфмачкі, а рыфма Лукашэнка—Карпенка нават пры першым вымаўленьні не эталён, як Пінск-Дзьвінск. Але справа ня ў рыфме, справа ў сьветаразуменьні Карпенкі. Каб навесьці ў дзяржаве парадак, мала мысьліць маштабамі аднаго мястэчка. Вядома, можна падняць мястэчка да ўзроўню космасу, як той Шагал, але можна й космас апусьціць да местачковага разуменьня. Другое больш распаўсюджана.

Мне, калі шчыра, вельмі шкада людзей, якія побач зь ідэалам паставілі постаць Шушкевіча. Ён, відавочна, палітык зь мінулага. Шушкевіч меў вялікі шанец стаць Прэзыдэнтам, але ўпусьціў момант. А я, як і народ, не люблю людзей, якія маглі нешта добрае зрабіць, а не зрабілі.

Найбліжэйшы да майго ідэалу — лідар БНФ Пазьняк. Калі гаворыш пра Пазьняка як лідара, дык ня робіш нацяжкі. Ёсьць і ў яго неадпаведнасьці з маім уяўленьнем пра прэзыдэнта Рэспублікі Беларусі. Пазьняк, на маю думку, занадта ідэаліст, ён занадта тэатральны й літаратурны. Зрэшты, беларусы — нацыя паэтаў. Толькі каб стаць дзяржаўным мужам, варта арыентавацца на Коласа, Гаруна, Багушэвіча, а не на іншых зь пяці вялікіх нашых песьняроў — Купалу й Багдановіча. Але ідэал ёсьць ідэал, а жыцьцё не гарманічнае, на жаль. І галасаваць я буду і заклікаю ўсіх аддаць свае галасы за Пазьняка.

Апошняя постаць у шэрагу названых вышэй — Кебіч. Ён, як і Карпенка, мае пэўныя абмежаваньні, калі разважае аб дзяржаўнасьці. Такія, звыклыя да вытворчасьці, людзі пераносяць законы пабудовы заводу на законы будаўніцтва дзяржаўнасьці. Як кожны вытворца, Кебіч чалавек сур'ёзны, таму можа так здарыцца, што ў яго хопіць сілы стаць прэзыдэнтам Р.Б. Толькі пасьля выбараў сілы Кебіча хутка скончацца — узрост ёсьць узрост.

Вось і ўсё пра кандыдатаў. Толькі будуць 1999 і 2004 гады ў *маім* палітычным жыцьці. І я спадзяюся...

# Ці не пара і генэралу прызнаць сваю віну за тую вайну і... панесьці адказнасьць?

**Беларускія хлопцы загінулі ці атрымалі калецтвы ў аўганскай вайне, асьлепленыя злачыннаю хлусьнёй. Каб іншыя зразумелі сэнс тых зьяваў і паслалі вечны праклён тым, хто сьвядома ўкараняў і абгрунтоўваў хлусьню. А таксама тым, хто апраўдвае той разбой цяпер.**

Гэтая думка ўзьнікла ў мяне, калі я прачытаў інтэрвію генэрала Чаргінца «Последний окоп солдата» (*«Рэспубліка», 19.04.1994 г.*). Там сярод «незаживших ран войны» «самой кровоточащей» названы Аўганістан, як «непроходящая боль». Чаму ж той боль так доўга не праходзіць, якія сучасныя хваробы падтрымліваюць яго? Вядома, маецца на ўвазе боль грамадзкі, а не асабістыя пакуты.

Асноўныя з гэтых хваробаў: хлусьня вакол той вайны, якая жыве і цяпер; спэкуляцыя тых, хто ствараў, укараняў ці апяваў хлусьню, нават на пачуцьцях бацькоў, сыны якіх загінулі ў злачыннай аўганскай авантуры; убіваньне ў сьвядомасьць удзельнікаў аўганскай вайны пачуцьця выканаўцаў высокай місіі «воіна-інтэрнацыяналіста», за што грамадзтва быццам бы засталося перад імі ў неаплатным даўгу назаўжды.

Прааналізуем сучасны стан гэтых хваробаў. Існаваньне першай і другой яскрава пацьвярджае абноўлены подпіс пад бюстам Іщанкі Сяргея Ўсевaладавіча ў галоўным корпусе Менскага пэдагагічнага інстытуту, прылюдна зьвернуты да ягоных бацькоў й маці. Вось фрагмэнт адтуль. *«Уважаемые Всеволод Всеволодович и Надежда Николаевна. С чувством большого горя и скорби сообщаем о гибели Вашего сына Ищенко Сергея Всеволодовича 05.06.1985 года. (...) Сергей всегда показывал образец преданности делу КПСС и социалистической Родине. (...) 5 июня 1985 года находился на посту по уничтожению бандформирований мятежников»* і загінуў... *«от взрыва мины»*. *«За проявленное мужество и отвагу при выполнении боевого задания Сергей представлен к Государственной награде»*. Пад пасланьнем — подпісы в.а. камандзера вайсковага злучэньня пп 83506 маёра Міхайлава і ягонага намесьніка па палітычнай частцы маёра Ялецкага.

Цяжка сказаць, ці разумелі гэтыя два маёры сутнасьць хлусьні, пад якой падпісаліся: пра адданасьць Сяргея справе КПСС, пра «бандформирования», пра мужную гібель ад выбуху міны. Невядома таксама, паехалі яны на аўганскую вайну пад прымусам ці дабрахвотна, дзеля вайсковай кар'еры. Аднак сама сабою напрошваецца высноваё што кіраўніцтва Менскага пэдагагічнага інстытуту, які цяпер зьмяніў шыльду на ўнівэрсытэт, дабрахвотна й сьвядома трымае на адным з самых бачных мейсцаў хлусьню. І хоча яно ці ня хоча, але тым самым навязвае свой «пролетарский интернационализм» будучым настаўнікам моладзі. А вось гэта, прабачце, патыхае духоўным злачынствам.

Адзначанае — не выпадковасьць. Падобнае ў форме алілуйшчыны мы чулі і раней, калі 40-я армія раталася «победоносными» ўцёкамі з Аўганістану («Опаленные Кандагаром» — *«Правда», 10.08.1988 г.*, «Через горы и пустыню» — *«Правда», 12.08.1988г.* і інш.). З тым жа ўсхваленьнем падавалася яно ўжо пасьля афіцыйна-ўрадавага прызнаньня той вайны «памылкаю» («Жить открыто и честно» — *«Народная газета», 12.01.1991 г.*; «Делаю то, что в силах измерить» — *«Советская Белоруссия», 30.04.1991 г.*; «И в аду оставаться человеком» — *«Вечерний Минск», 13.05.1991 г.*; «Не играйте на страданиях» — *«Рэспубліка», 06.10.1992 г.*; «Мы, матери убитых детей, просим защиты от лжи и клеветы» — *«Рэспубліка», 04.12.1992 г.* і інш.).

Тое самае і цяпер: зацікаўленыя людзі надалей укараняюць у сьвядомасьць грамадзтва ядавітую хлусьню пра аўганскую вайну.

Якім чынам М.Чаргінец патрапіў у Аўганістан, ён у інтэрвію не гаворыць. Невядома таксама, чым канкрэтна ён там займаўся.

Але тагачасная палкоўніка М.Чаргінца лёгка ўявіць, калі ўважліва прачытаць два ягоныя раманы, напісаныя ў Аўганістане: «Тайна черных гор» (1987 г.) і «Сыновья» (1989 г.). Там Чаргінец сьцьвярджае, што савецкія салдаты дапамагалі «геройчнай барацьбе аўганскага народу з контррэвалюцыяй», выконваючы вялікую місію «воінаў-інтэрнацыяналістаў», «готовых всегда к любым испытаниям ради торжества справедливости».

У названых «творах» ён «вооружил свою совесть комуниста», каб паказаць, што «душманы — те же преступники». Чаргінец называе іх выключна «бандитами», «сбродом», «зверями» (на некаторых старонках аж па сем разоў).

Зьвернем увагу: першая кніжка М.Чаргінца падпісана ў друк 28 жніўня 1987 г., калі нават кіраўніцтва КПСС назвала гэтую вайну памылкаю і прыняло рашэньне аб вывадзе войскаў з Аўганістану. Другая кніжка атрымала «дабро» 26.07.1989 г., гэта значыць у пэрыяд бурных «геройчных» уцёкаў «пралетарскіх інтэрнацыяналістаў», паліваных агнём сьмерці нават на пустэльных дарогах.

Аўтар меў магчымасьць затрымаць друкаваньне як першага, так і другога «твора». Аднак для гэтага патрабавалася адлаведнае разуменьне і адлаведны ўзровень сумленьня, чаго, пэўна, не было. Вось чаму ў кніжцы «Сыновья» аўтар шчыра бядуе: «Политработники говорят, что в стране происходят различные изменения. Сняты лозунги, призывающие население к строительству социализма. Флаг уже не красный. Правительство призывает контрреволюцию к сотрудничеству, согласно с ней поделить власть. Получается, что цели... не достигнуты».

Але Чаргінцу ўсё ж такі хочацца апраўдаць крывавую бойню, якая праводзілася пад мудрым кіраўніцтвам КПСС. Таму ён піша: «Пребывание наших войск в этой стране не позволило ей стать на враждебные Советскому Союзу позиции и предоставить свою территорию американским спецслужбам, которые хотели разместить вдоль границ с Советским Союзом системы радиоразведки, которые могли бы просматривать и прослушивать нашу территорию от южных границ до Арктики». Калі б М.Чаргінец ведаў, што і да пачатку аўганскай вайны амэрыканцы з дапамогай спадарожнікаў маглі палічыць нават колькасьць салдатаў у машыне, дык такую бязглуздзіцу не пісаў бы.

Калі ўлічыць, што кніжкі свае М.Чаргінец пісаў дабрахвотна, то можна зрабіць выснову: ён служыў той вайне сьвядома і ўнёс адчувальны ўклад у забойства многіх тысяч ні ў чым не вінаватых нашых хлопцаў і ў зьнішчэньне мільёна жыхароў Аўганістана. І за гэта трэба адказваць, а не шукаць апраўданьняў.

У апошнім інтэрвію газэце «Рэспубліка» генэрал-лейтэнант Чаргінец кажа: «В прошлом году 30 афганцев покончили с собой, более ста попало в тюрьму. Многие стали алкоголиками, наркоманами...» Гэта гучыць як абвінавачаньне ў адрас грамадзтва. Але віна ляжыць перш-наперш на сумленьні тых, хто ў якасьці адкупнога за свае грахі настройваў былых удзельнікаў аўганскай вайны патрабаваць, патрабаваць і яшчэ раз патрабаваць ад грамадзтва льготаў замест таго, каб скіроўваць гэтых людзей на нармальнае працоўнае ўваходжаньне ў жыцьцё.

Ці не садзейнічалі такой хваравітай анамаліі і патрабаваньні генэрала-тэарэтыка злачыннай вайны — «Пора вернуть им долг!» (*«Рэспубліка», 06.10.1992 г.*)? Пра якія даўгі можа ісьці размова? Калі ўжо так ставіць пытаньне, дык трэба прызнаць, што ў даўгу засталася ўся КПСС, Палітбюро якой прыняло рашэньне аб «ограниченном контингенте советских войск в Афганистане». Сорамна яшчэ до здаровым мужчынам патрабаваць апошнія крохі ў жабрацкага насельніцтва!

Успомнім жыцьцё пасьля вайны з фашызмам, у якой я ўдзельнічаў дабрахвотна і стаў інвалідам. Ні ў мяне, ні ў мільёнаў іншых такіх, як я, нават і думкі не было нечага патрабаваць ад жабрацкага наваколья. Наадварот, мы з усіх сіл імкнуліся дапамагчы грамадзтву. І першыя льготы самыя маладыя з удзельнікаў антыфашысцкай вайны атрымалі амаль перад пэнсійным узростам. Прытым ільготы, якія нават у параўнаньне ня ідуць з сучаснымі льготамі «воинов-интернационалистов», хаця ставіць знак роўнасьці паміж антыфашысцкай і аўганскай вайной — сьвятататства.

Імкненьне перакласьці вынікі аўганскай авантуры на плечы простых людзей — вялікі грэх. Я, напрыклад, быў супраць яе з самага пачатку. Свае артыкулы на гэтую тэму накіроўваў тады ва ўсе саюзныя й рэспубліканскія газэты й часопісы. Але «генэралы» ад прэсы іх не друкавалі. За тры гады да канца той вайны зьвяртаўся нават да самога М.Гарбачова. І, вядома, за ўсё гэта плацію здароўем. За што ж я павінен зноў плаціць?

**Аляксей САЛАМОНАЎ,**
**доктар тэхнічных навук, прафэсар.**

# Тры інкунабулы пад адной вокладкай

**Сэнсацыйнае адкрыцьцё зрабіў у Горадні беларускі гісторык з Санкт-Пецярбургу Мікола Мікалаеў.**

У фондах рэдкай кнігі Гарадзенскага гістарычна-археалягічнага музэю ён адшукаў тры інкунабулы — кнігі, выдадзеныя да 1501 году. Дзьве зь іх надрукаваныя ў 1500 г., а трэцяя ў 1494 г. Усе разам яны пераплеценыя ў адну, што называецца канвалютам.

Выдадзеныя кнігі па-лацінску ў Кракаве вядомым выдаўцом і вінным гандляром Янам Галерам. Раней лічылася, што ў Горадні такіх кніг няма. Найстарэйшае выданьне было пазначана 1502 годам. У Беларусі інкунабулы вельмі вялікая рэдкасьць, дагэтуль яны былі ў кнігазборах бадай толькі дзьвюх сталічных бібліятэк.

**Міхал ВАЎКАВЫЦКІ**

# Заходняя прэса прыходзіць у Менск

**З пачатку гэтага месяца ў Менску можна будзе свабодна купляць заходнюю прэсу — былі б грошы.**

Дырэктар менскага «Белсаюздруку» Л.Шаблоўская запэўнівае, што эўрапейскія ды амэрыканскія газэты й часопісы будуць трапляць да нас не пазьней чым праз 2—3 дні. Можна таксама аформіць падліску. Дастаўляць прэсу будуць самалётам зь Нямеччыны. Дастаўка аднаго выданьня абыходзіцца ў 1,5—2 дойчмаркі, якія дадаюцца да ягонай цаны.

Такім чынам, навіны з Эўропы й Амэрыкі ня кожнаму прыйдуцца па кішэні. Зрэшты, большасьці з нас заходняя прэса не патрэбная і задарма — усё адно мовы ня ведаем.

**І.К.**

## Крама насупраць турмы

**Напярэдадні першага траўня над турэмнай брамай у Горадні ўпершыню вывесілі бел-чырвона-белы сьцяг. А цераз вуліцу насупраць турмы адчынілася крама драўляных вырабаў.**

Асартымэнт шырокі: ад кухонных дошак, хлебніц, палічак, зэдлікаў, сталоў і дзіцячых калысак да царкоўных абразоў у разьблёных асадах і рытуальных вырабаў. Труна каштуе 225 400 руб., на прылаўку выстаўлены ейны мініятурны ўзор. Праваслаўны крыж прадаецца за 18 тыс., а каталіцкі чамусьці зусім танны — усяго 8 400 руб. Што істотна — усе тавары зробленыя з дрэва, дошкі з прэсаванага пілавіньня не выкарыстоўваюцца. Рэчы гэтыя вырабляюць майстры зь ліку турэмных вязьняў.

**В.В.**

# На нямецкія грошы і паводле заходніх стандартаў

**Паблізу Вялейкі на беразе вадасховішча будуецца рэабілітацыйны цэнтар для чарнобыльскіх дзяцей.**

Для яго прыстасоўваюцца будынкі былой досьледнай базы біялягічнага факультэту БДУ. Аднак ад іх мала што застаецца, хіба сьцены, а ўсё астатняе перарабляецца паводле заходніх стандартах. Нават абложную плітку зьбіваюць *(на здымку)*, каб аздобіць будынкі больш прыстойным матар'ялам.

Рэч у тым, што гэты праект фінансуюць немцы, якія лічаць, што дзіцячы гарадок павінен выглядаць лепш за грамадзкую лазьню. Грошы дае ўрад зямлі Гесэн і нямецкія хрысьціяне-эвангелісты. Гэта — дабрачынная дапамога беларускаму народу.

Дзеці будуць тут вучыцца і адпачываць на працягу навучальнай чвэрці. Першая група зь 56-ці чалавек прыедзе сюды ўжо ў гэтую восень.

**В.Ф.**



# НАША НІВА №4

Чарговы нумар беларускай газэты зь Вільні вылучаецца сваёй мазаічнасьцю. Але ёсьць тэма, якая ахоплівае ці не бальшыню матар'ялаў — МАСКУЛЬТУРА. Гэтай праблеме прысьвечаны калёквіюм у рэдакцыі «НН». Масавая культура ня ёсьць спажыткам ані люмпэна, ані эліты, яна належыць сярэдняй клясе. Таму так добра ў кантэксьце тэмы надаўся артыкул Ігара Марзалюка «Бюргеры й жабракі» — аб сярэдняй клясе сярэднявечнага беларускага гораду XV—XVIII ст. Маскультура — адзіная форма паўнавартаснага існаваньня беларушчыны сёньня.

Друкуюцца ў нумары архіўныя дакуманты і артыкул Юркі Васілеўскага «Constanta Юркі Віцьбіча». Вынайдзеная Віцьбічам формула змаганьня й выжываньня сьведчыць пра тое, што паміж здрадаю й растрэлам для нацдэма ў сталінскія часы мог быць і трэці шлях.

Упершыню беларускі чытач па-беларуску можа пазнаёміцца з парыскім сэміётыкам летувіскага паходжаньня Альгірдасам Юліюсам Грэймасам. У сваім эсэ пра культуру ён ні разу ня згадвае Беларусь. І аднак гэты тэкст — зусім пра нас і для нас.

«НН» прапануе тры ўрыўкі з апошняй кнігі «Здраджаныя тэстамэнты» яшчэ аднаго парыжаніна — слыннага чэскага літаратара Мілана Кундэры, які апошнім часам піша пераважна па-француску. А чэх Пётр Последні спрабуе адказаць на пытаньне: чаму пасьля канчатковага краху таталітарызму чэскія пісьменьнікі эмігранты не вяртаюцца дадому?

У «НН» таксама паэтыцкі дэбют новапалачаніна Ўладзімера Лобача, мастацкія пераклады зь нямецкай і польскай моваў. Сяргей Шупа выкладае тэарэтычныя падставы рэформы беларускай літаратурнай мовы. Традыцыйная рубрыка «Бібліятэка» дазваляе паспрачацца пра кніжныя навінкі.

**Удакладненьне**

## Тэлевізар мэра глядзіць трэнэр

**На мінулым тыдні ў рэдакцыю СВАБОДЫ завітаў славуты спартсмэн Аляксандар Мядзьведзь.**

У інфармацыі пра міжнародны турнір на прыз А.Мядзьведзя (СВАБОДА, №10) мы паведамілі, што старшыня аргкамітэту турніру мэр Менска Аляксандар Герасіменка быў узнагароджаны каляровым тэлевізарам «Гарызонт». Пра гэта было публічна заяўлена на ўрачыстай цырымоніі закрыцьця спаборніцтваў.

Аднак, як высьветлілася, сп. Герасіменка тут жа адмовіўся ад падарунка, і арганізатары мусілі на хаду шукаць «замену»: пастанавілі ўручыць тэлевізар галоўнаму трэнэру Дзяржкамспорту Віктару Малахаву. Пры гэтым, праўда, вядучы забыўся паведаміць публіцы (сярод якой быў і наш карэспандэнт), што гэта той самы тэлевізар, які «ўручаўся» мэру...

То хай Аляксандар Герасіменка нам прабачыць.

## Прагарама 8-га каналу з 4 па 8 траўня

**Серада, 4 траўня**

18.00 Рэкляма.
18.05 Мультфільм «Падарожжы Гулівэра». Частка 2.
18.35 «Ад'ютант яго дастойнасьці». Маст. фільм. 3 сэрыя.
19.45 Журфак БДУ прэзэнтуе...
19.55 «Хіл-стрыт Блюз».
20.45 «Лёс». 58 сэрыя.
21.25 Опра Ўінфры шоў. «Бацькі і сыны: як ім зразумець адзін аднаго».
22.10 Справы надзённыя.
22.20 «Бяда, якая здарылася з Тэмпі». Маст. фільм.
23.10 Муз. праграма.
23.25 Рэкляма.

**Чацьвер, 5 траўня**

18.00 Рэкляма.
18.05 Мультфільм «Падарожжы Гулівэра». Частка 3.
18.30 «Ад'ютант яго дастойнасьці». Маст. фільм. 4 сэрыя.
19.40 Мультфільм «Велямудры пячкур».
19.50 «Лябірынт правасудзьдзя».
20.40 «Навіны». ММ4.
21.10 «Файт». Кікбоксынг.
20.55 «Лёс». 59 сэрыя.
21.55 Сямейнае кола.
22.05 «Сустракайце доктара Хрысьціяна». Маст. фільм.
23.30 Рэкляма.

**Пятніца, 6 траўня**

18.00 Рэкляма.
18.05 Для дзяцей: «Карусэль». мультфільм «Самы павольны пісталет».
18.30 «Солтэк» прэзэнтуе: «Дорэміфасолькі».
18.35 «Ад'ютант яго дастойнасьці». 5 сэрыя.
19.50 Журфак БДУ прэзэнтуе...
20.00 «Хіл-стрыт Блюз».
20.50 Справы надзённыя.
21.00 «Лёс». 60 сэрыя.
21.40 Час мясцовы.
22.00 «Асуджаны на жыцьцё». Маст. фільм.
23.05 Муз. праграма.
23.25 Рэкляма.

**Субота, 7 траўня**

15.00 Рэкляма.
15.30 ММ4. «Прапаведнік Кенэт Копленд».
16.00 Сямейны экран. «Дзе ваш сын?» Маст. фільм.
17.20 «Роздумы пра джаз».
18.10 Кароткамэтражны фільм «На краі» з сэрыі «Зыгзагі жыцьця».
18.35 «Схаваная камэра». Камэдыйнае шоў.
19.00 Шалом зь Ерусаліму.
20.00 Тэлечасопіс «Відэамода».
20.25 Стрэс-паўза.
20.30 «Скарбы Сьвятой Зямлі».
21.00 «Солтэк» прэзэнтуе: «Спартовая мазаіка».
21.30 Сем хвілінаў з «Хрыстафорам».
21.40 «Як маесься, дзядзька?». Андрэй Місін.
22.10 Сямейнае кола.
22.20 «Правал у памяці». Маст. фільм з сэрыі «Я шпіён».
23.10 Муз. праграма.
23.30 Рэкляма.

**Нядзеля, 8 траўня**

15.00 Рэкляма.
15.05 Праграма пра здароўе «Жыцьцёвы выбар». «Заплыў да здароўя».
15.30 ММ4. «Нямецкая хваля».
16.00 ММ4. «Прапаведнік Кенэт Копленд».
16.30 «Затока Небясьпечная».
17.00 Спартовая паралель.
17.50 Мультфільм.
18.00 «Солтэк» прэзэнтуе: «Тэлефэн», «Вуліца».
18.30 ММ4. «Бізнэс-плян».
18.50 Відэасалён запрашае. «Дэрсу Ўзала». Маст. фільм.
21.05 Казань айца Міхала.
21.10 Дзікая Амэрыка. «Дзівацтвы жывёльнага сьвету».
21.40 Тэлечасопіс «Відэамода».
22.05 «Зямля сьмелых». Маст. фільм.
23.30 Рэкляма.

# Эўратунэль распачынае працу 6 траўня

**Дата ўрачыстага адкрыцьця тунэлю пад Ля-Маншам, у якім возьмуць удзел каралева Вялікабрытаніі Элізабэта ІІ і прэзыдэнт Францыі Франсўа Мітэран, прызначаная на 6 траўня. Прыкладна на гэты ж час перанесены пачатак грузавых чаўночных перавозак, што меліся адкрыцца яшчэ 4 сакавіка.**

Цяпер ужо вядома, што чаўночная служба, якая дазволіць перавозіць пасажыраў ды іхныя аўтамабілі праз 50-кілямэтровы тунэль за 35 хвілінаў, распачне працу ў першай палове чэрвеня. Але гэтыя перавозкі будуць мець абмежаваны характар. У тунэль пасажыры будуць дапускацца пакуль што на запрашэньні. У лік запрошаных трапяць акцыянэры кампаніі Eurotunnel PLC, выканаўцы, а таксама журналісты. Звычайная публіка зможа скарыстацца з чаўночных перавозак не раней за кастрычнік.

Мяркуецца, што служба наўпроставых перавозак, дзякуючы якой можна будзе дабрацца зь Лёндану ў Парыж за 3 гадзіны, а ў Брусэль за 3 гадзіны 15 хвілінаў, распачне працу паводле абмежаванага графіку ў ліпені. Рэгулярныя ж перавозкі распачнуцца ўвосень.

Да гэтага часу было пасьпяхова праведзена 25 з 26 тэстаў, неабходных для атрыманьня ад уладаў сэртыфікатаў на эксплюатацыю грузавой службы. Адзін з апошніх тэстаў доўжыўся цэлы тыдзень. Падчас гэтага выпрабаваньня праз два з трох тунэляў сыстэмы чатыры разы ў гадзіну і 24 гадзіны ў дзень праганялі грузавыя цягнікі.

Некаторыя аналітыкі мяркуюць, што адклад з адкрыцьцём перавозак можа абысьціся кампаніі Eurotunnel у 50 млн. фунтаў страчанага даходу. Кіраўнікі кампаніі лічаць, што перавозкі стануць прыбытковыя не раней за 1998 год.

**Паводле *International Herald Tribune***



Падпісны індэкс 63887. Нумар падпісаны ў друк 3.05.94. Друкарня "Беларускі Дом Друку" (Менск, пр. Ф.Скарыны, 79). Замова 599 Наклад 27 000.
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12